ЗАХОДНЕБЕЛАРУСКАЯ ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.

# ПАГОНЯ

№ 29 (128) 4 -10 жніўня 1995 г. Кошт 600 рублёў

КАЛІ БЕЛАРУСА ПЕРАСТАНУЦЬ ЦЯГАЦЬ ЗА ЧУБ - ст. 2.

"ЭЎРАТРЭЙД" ПРАПАНУЕ ЗАМЕЖНЫЯ АБНОСКІ - ст. 3.

ЯШЧЭ ПРА ПАСЬЛЯВАЕННУЮ ПАРТЫЗАНКУ - ст. 4.

ПРАГРАМА ТЭЛЕБАЧАНЬНЯ НА ТЫДЗЕНЬ: Менск - Варшава - Масква - Санкт-Пецярбург.

## «Я ЗЬ ВАМІ Ў КОЖНАЙ ГАДЗІНЕ ЖЫЦЬЦЯ...»



9 жніўня нашай слыннай паэтцы Ларысе Геніюш спаўняецца 85 гадоў з дня нараджэньня. У гэтыя дні на яе радзіме ў Зэльве пабываюць пісьменьнікі, знаёмыя, сябры і проста прыхільнікі яе таленту. Будуць гучаць вершы паэткі, успаміны пра яе, бўдзе на яе магіле шмат кветак. Дый як ня быць кветкам, калі яна іх вельмі любіла, любіла так моцна, як сваю Беларусь, свой народ, сваю мову. На жаль, творчасьць Ларысы Геніюш яшчэ ня вывучана, не апублікавана, не ацэнена. Як пісала Данута Бічэль, «яшчэ не прыйшоў сьветлы час Ларысы Геніюш». Але верыцца, што ён наступіць, бо яшчэ ў сталінскіх лагерах паэтка пісала:

*Я зь вамі ў няволі, я зь вамі усьцяж*
*У сьмелых сваіх летуценьнях,*
*Я зь вамі ў кожнай гадзіне жыцьця,*
*У кожнай мінуце цярпеньня ...*

Цярпеньне ў нашага народа ёсьць. Аж занадта!... Дзякуючы яму і знаходзіцца ў архівах і рэдкіх выданьнях усё новыя і новыя творы Ларысы Геніюш. Два вершы нашай зямлячкі «Сутоньнем» і «Непасланаму» прапануем чытачам «Пагоні». У Беларусі яны друкуюцца ўпершыню. А зьмешчаныя гэтыя вершы былі ў беларускім эміграцыйным часопісе «Сакавік» (выйшла з друку толькі тры нумары) у 1947 і 1948 гадах. Вершы гэтыя актуальныя і сёньня, хоць прычым тут актуальнасьць, калі ў Ларысы Геніюш - юбілей, калі ўсё жыцьцё свой талент яна аддавала служэньню беларускай паэзіі, услаўленьню сваёй Бацькаўшчыны.

**Сяргей ЧЫГРЫН.**

**ЛАРЫСА ГЕНІЮШ**

### СУТОНЬНЕМ

Зацiхла места ў хмараў шэрых дыме.
З муроў вачом нат нельга уцячы ...
Што ж, сынку мой, мой каласок
радзімы,
Чаго сумненькі і чаму маўчыш?
Ці жаль, што дзень прадчасна дагарае
І не пакрыў дарогі мяккі сьнег,
Ці мо краіна белая другая
Табе здаецца гэтак, як і мне?
Там сёньня ўзьвівы сьнежнае завеі,
І вухам страшна гэты сьпеў лавіць...
Хтось выстраліў і шырака па белі
Рассыпаў жменю ярых журавін.
Іх заўтра крук сутоньнем пазьбірае,
прывыкшы ён да гэткае яжы,
І будзе кракаць ноч над белым краем,
Прысеўшы дзесь на зломаным
крыжы.
І ўспамінаць, як ціхай калянінай,
калі сьнег пер'е белае губіў,
Іх з хатаў шмат, сумленных
і бязьвінных,
Пад звон жалеза павялі ў Сібір...
Завея ў полі тужыць там і плача,
Але ня плач, маленькі мой сынок!
Вось вырасьцеш, і будзе ўсё іначай,
Шчасьліўшы будзеш, любы каласок...
Мы ў спадчыну ўзялі ад продкаў
нашых
Няволі лютай цяжкае ярмо.
Цягаць яго, мой сынку, гэтак страшна,
Ды вам, табе - яго мы не дамо!
Мы сёньня, сынку, воляй
і змаганьнем
Ірвём у долі новую пару.
Нядарма там вартуе да сьвітаньня,
Чакаючы гасьціны, чорны крук.
Калі б, мой сынку, нам ня стала
сілаў,
І мы крывёю гора не змаглі -
Ты не забудзь, што маці гаварыла,
Свайго народу і свае зямлі...
**1947 г.**

### НЕПАСЛАНАМУ

Дзе Ты быў у дні нашы бунтарныя -
Я шукала Цябе кругом ...
Сьцежкі слаліся толькі ахвярамі,
Кроў бязьвінна лілася ручвом ...
Дзе Ты быў, як вачыма туманнымі,
Заглядзеўшыся нема у даль,
Між старымі шляхамі курганнымі
Выйшла Маці Цябе выглядаць?
І да рук Яе белых заломаных
Толькі вецер ласкава прыпаў,
Толькі краскі сярэбраныя гоманам
Абазваліся недзе між траў ...
Аб нас доля, Ты знаеш, ня руціцца,
Казкі шчасьця для нас няма ...
Недзе ў ноч маладая заручніца
Дзяцюка вызваляла дарма ...
Доўга, прагна шукаючы помачы,
Пралятала, як птах, сяло.
Выйшлі людзі, зьбядована стогнучы,
Выглядалі - Цябе ня было.
І з руінаў, пажарам асмаленых,
Пакідаючы бацькавы кут,
Ішлі нашы суродзічы ў далі дзесь,
На спатканьне нязнаных пакут.
І пад іхнымі сьвітамі шэрымі
Да багатых чужых людзей
Сэрцы біліся горка-зьняверана,
А Цябе - ня было нідзе ...
Усе, пустымі дадзетыя крыкамі
Ап'янелых крывёю дзён,
Твайго сэрца шукалі вялікага
І адвагі у мужных грудзёх.
І чакалі дарма яны раньня там,
Тыя людзі з пахілых хат,
І дарма яны сэрцам параненым
Так хацелі Цябе пакахаць...
Цяжка зь ніў было родных засеяных
У чужыну кудысьці ісьці ...
Ты быў казкаю, Ты быў надзеяю,
А Цябе ня было ў жыцьці.
За туманамі сьледу ня бачачы,
На бяспуцьці крывіцкіх дарог
Доўга, доўга стаяла я, плачучы,
Што Цябе не паслаў да нас Бог ...
**1948 г.**

## І РАДЫ Б У РАЙ...

**Падпісаныя Аддзелам праблем рэсурсазьберажэньня Акадэміі навук Беларусі, што знаходзіцца ў Гораднi, пагадненьні аб навукова-тэхнічным супрацоўніцтве з Парыжскім інстытутам матэрыялаў і канструкцый і Паўднёвакарэйскім інстытутам навук і тэхнікі, на жаль, цяжка рэалізаваць.**

Ведаючы фінансавыя цяжкасьці беларускіх навукоўцаў, іх гатовы прымаць там, але ж супрацоўнікі аддзела ня могуць з-за адсутнасьці сродкаў трапіць за мяжу. Таму, як паведаміў начальнік аддзела праблем рэсурсазьберажэньня А.Сьвірыдзёнак: «Мы пабудавалі нашу палітыку на ўзаемадзеяньні з Летувой, Расеяй, Украінай, зьвяртаем увагу і на Польшчу».

Нядаўна аддзел заключыў дагавор аб сумесных навуковых дасьледваньнях з Беластоцкім палітэхнічным інстытутам. І ўжо хутка два навуковых цэнтры пачнуць дасьледваньні фізічных паводзін суставаў чалавека з мэтай стварэньня штучных замяняльнікаў. А ўвогуле супрацоўніцтва з польскімі калегамі дазволіць гарадзенскім навукоўцам «пераадолець навукова-тэхнічны голад». Іх ужо запрасілі чытаць лекцыі ў Беластоку.

**А.ДУК**

## ПОСЬПЕХ У ВЕНГРЫІ

**Напярэдадні стартуючага сёньня першынства сьвету па лёгкай атлетыцы ў Венгрыі скончыўся маладзёжны чэмпіянат Эўропы па гэтаму віду спорта.**

Тры з чатырох заваяваных зборнай Беларусі медалёў - на рухунку лёгкаатлетаў Гарадзеншчыны. Срэбраныя ўзнагарады атрымалі Яніна Карольчык (штурханьне ядра), Вольга Цандэр (кіданьне дыску) і Мікалай Аўласевіч (кіданьне молату).

**Р.В.**

## ЯК АВІН ШАКІРАВАЎ ПРАФЕСАРАЎ

**У Гарадзенскім універсітэце адбылася сустрэча выкладчыкаў, якія ўдзельнічалі ва ўступных экзаменах з прэзідэнцкай камісіяй. Як выказаўся прадстаўнік Прэзідэнта Іван Авін, «совещание проводится по инициативе президентской комиссии».**

Па словах І.Авіна «эта кампания - первый этап реформирования системы образования». Прадстаўнікі прэзідэнцкай каманды (супрацоўнікі Службы кантролю па Гарадзенскай вобласьці) дзякавалі за сумесную працу, гаварылі, што «профессорско-преподавательский состав работоспособный», «работа поучительная», «в основном нашли взаимопонимание».

Потым гаварылі выкладчыкі. Прамоўцы «капалі глыбей» і размова была скіравана на тое, што адбываецца развал сістэмы адукацыі. Ніхто не аспрэчваў думкі аб рэфармаваньні сістэмы вышэйшай адукацыі. Але вось як гэта рабіць? І відавочна пачынаецца гэта справа, як кажуць «не з таго канца».

У выступах гучала занепакоенасьць зьніжэньнем узроўня ведаў абітурыентаў па многім прадметам, гаварылася пра вялікую розьніцу паміж ведамі вапускнікоў вясковых і гарадзкіх школ, пра недахоп літаратуры для падрыхтоўкі да экзаменаў, пра сацыяльна-эканамічнае становішча адукацыі. Многія адзначалі адмоўны маральна-псіхалагічны бок «кампаніі». Не абыйшлося без прэтэньзій да асобных членаў камісіі, у прыватнасьці да вядомай у горадзе і ва універсітэце камсамольска-партыйна-прэзідэнцкай функцыянеркі спадарыні Н.Талай. Былі выказаны канкрэтныя прапановы па ўдасканаленьню «кампаніі», калі яна працягнецца і на наступныя гады. Весела падтрымалі, напрыклад, прапанову накіроўваць аналагічную камісію ў сярэднія школы, бо большасьць медалістаў не пацьвердзілі свае высокія адзнакі (на факультэце права і эканомікі ніводны абітурыент-медаліст).

Заключнае слова трымаў І.Авін. Ён адзначыў, што «встреча полезная», прагучала шмат прапаноў і заўваг. З часткай камісія згодна, з другой не. Прамоўца ўпэўнены, што выкладчыкі універсітэта не зацікаўлены ў залічэньні добра падрыхтаваных абітурыентаў). Аказваецца прафесары баяцца разумных студэнтаў, бо тады прыйдзецца працаваць над сабой, а сярод шэрых студэнтаў яны адчуваюць сябе ўтульна.

Гэты пасаж выклікаў маленькі шок у слухачоў. Было не зразумела: ці гэта жарт, ці ўсур'ёз. Спадара прадстаўніка не задаволіў і ўзровень кваліфікацыі членаў прыёмнай камісіі.

Стала ўжо добрай традыцыяй прэзідэнцкіх функцыянераў лаяць прэсу. Не абыйшлося бяз гэтага і тут. Атрымаў за «клевету, ложь,фальсификацию» рэдактар «Народнай газеты» Мікола Галко разам з жонкай. Па словах Авіна, гэта яна (жонка Галко працуе ў Міністэрстве адукацыі) прымусіла мужа публікаваць пад псеўдонімам тры артыкулы аб падзеях у Гарадзенскім універсітэце. Гэтым дабразычліўцы аказалі «медвежью услугу» рэктару, прафесару Л.Ківачу. І цяпер сп.Авін будзе настойваць на тым, што прафесарКівач не адпавядае сваёй пасадзе.

Магчыма, новы навучальны год універсітэт пачне з новым рэктарам.

**С.П.**

## СКАРГА ПРЭЗІДЭНТУ

Япіскап Лідзкі і Навагрудзкі Канстанцін (па інфармацыі з яго акружэньня) накіраваў ліст прэзідэнту Лукашэнку са скаргай на Лідзкую арганізацыю Беларускага Народнага Фронту, якая быццам бы падтрымлівае мяцежную лідзкую парафію Сьвятога Панцеляймона. Апошняя нядаўна ў сваім звароце да мітрапаліта Філарэта заявіла, што ў выпадку прадаўжэньня ўціску з боку высокіх царкоўных чыноўнікаў выйдзе ў аўтакефалію і далучыцца да Украінскай аўтакефальнай праваслаўнай царквы.

**Зьміцер СЬВІСТУНОВІЧ**

# КАЛІ БЕЛАРУСА ПЕРАСТАНУЦЬ ЦЯГАЦЬ ЗА ЧУБ

**Стан, у якім апынулася наша грамадзтва, наша краіна, вымушае зноў і зноў задумвацца над пытаньнямі: «Хто вінаваты?» і «Што рабіць?».**

**Мы прапануем Вашай увазе адзін з такіх артыкулаў. Не ва ўсім можна,відаць, пагадзіцца з аўтарам. Але нельга адмовіць у тым, што артыкул гэты напісаны чалавекам, для якога ня ўсё роўна, якой ёсьць і будзе Бацькаўшчына.**

Лёс у чарговы раз запаліў перад Беларусьсю чырвонае святло на яе шляху да самастойнасьці, заможнасьці і цывілізацыі. Трэба па ўсім сьвеце біць у званы. Трэба, выкладаючы нашыя меркаваньні і патрабаваньні, карыстацца ўласнымі навуковымі, публіцыстычнымі і геапалітычнымі катэгорыямі і паняцьцямі, што адпавядаюць менавіта нашым інтарэсам. Чамусьці інтэлектуалы-патрыёты, выкрываючы антыбеларускія захады, пачынаюць абвяргаць іх у тых жа самых катэгорыях, якімі ўзброены ворагі Беларушчыны. Так справа ня пойдзе. Нельга гаварыць з імі на іх мове, таму што іх паняцьці і канцэпцыі адлюстроўваюць іх інтарэсы. Нельга станавіцца на рэйкі і імчаць разам з іх паравозам. Трэба ладзіць свой накірунак. Некалі амерыканцы казалі Саветам: у вас ГУЛАГ, жабрацтва і жалезная заслона. А Саветы казалі ў адказ: а ў вас негры на лаўках сьпяць.

Вось, напрыклад, усе ведаюць пра тры падзелы Польшчы (чаму Польшчы, а не І Рэчы Паспалітай? Але хай...). Чаму ніхто ня кажа пра тры падзелы Беларусі? Першы адбыўся пасьля заключэньня Рыжскага мірнага дагавора паміж Польшчай і РСФСР у 1921 годзе. «Далі тры паветы, дзякуй за гэта», - казаў пра тую Беларусь паэт. Беларуская дэлегацыя на расейска-польскі хаўрус дапушчана не была. Другі падзел Беларусі стаў магчымым пасьля пакта "Молатаў-Рыбентроп" 1939 года. Хутка старажытная сталіца беларусаў Вільня была перададзена Літве, маўляў: бярыце, не шкадуем. Беларусаў побач з Іоахімам, Іосіфам і Вячаславам не было. Літоўцы з палякамі пяцьдзесят год спрачаліся, але дагадзіліся, што Вільня няхай будзе ў Літве. Беларусаў ніхто нават не паінфармаваў.

І, нарэшце, сёлета высьвятляецца, або ўжо зьдзейсьніўся трэці падзел Беларусі. Польшчы застаецца Беласточчына, якую лорд Керзон не пажадаў абвесьці як беларускую зямлю з эстэтычных поглядаў: тады яго мяжа была б занадта крывая. Літва канчаткова замацавала за сабой Вільню. Усё астатняе паглынае Расея. Такім зьяўляецца геапалітычны расклад па выніках майскага 1995 г. рэферэндуму на Беларусі. Хто сумняваецца, што стравы для гэтага палітычнага сьнеданьня гатаваліся ў Маскве і Варшаве? Вільнюсу параілі пільнаваць уласнага носу. Ашаломлены літоўскі прэзідэнт толькі выгаргаваў для сваіх эксклюзіўнае выкарыстаньне герба «Пагоня». Варшаву маскоўскія камбінатары купілі на традыцыйны для яе хцівасці, а ў дадатак падкінулі газапровад, удзел у НАТО і яшчэ сёе-тое са скарбонкі спагадлівага «барина».

У прынцыпе, усё гэта добра відаць з Вашынгтона, Лондана, Бона. Але здаровы прагматык захаду ставіцца абыякава да падобных гульняў, тым больш, што Менск ніхто бамбіць не зьбіраецца, а большасьць грамадзян там лічаць, што Беларусь недзе ў Афрыцы. Абудзіць грамадзянскую думку там і ў нас тлумачэньнямі пра тое, што ў Пазьняка ў задніцы няма хваста - марная справа. **Нас абрабавалі - так павінна гучаць беларуская пазіцыя.**

Альбо возьмем другі момант. Спрадвек Расея і Польшча змагаюцца за панаваньне на землях Беларусі. Сьвядомы беларус пачынае даводзіць, што ён любіць абодвух, што ён па нацыянальнасьці не праваслаўны і не каталік. Між іншым, нацыянальны інтарэс беларусаў у тым, каб Польшча і Расея змагаліся не за панаваньне ў Беларусі, а за тое, каб іхныя візаві не запанавалі тут. Каб яны цёгалі за чубы не беларуса, зацюканага і быдлаватага, а адно аднаго - ганаровых і нахабных. **Нас гвалцяць - вось беларуская пазіцыя.**

Альбо яшчэ адзін. Прэзідэнт Беларусі давёў краіну да канстытуцыйнага крызісу, які, паклаўшыся на забарону рэферэндуму Вярхоўным Саветам пры Кебічы, ня мае несупрацьзаконнага вырашэньня. Сусьветная супольнасьць такія рэчы ацэньвае вельмі адмоўна, хаця б з нагоды Хельсінскага Акту 1975 г. ды іншых пагадненьняў аб забесьпячэньні правоў чалавека, які, гэты чалавек на Беларусі, пазбаўлены права мець хаця б легітымны прадстаўнічы ворган дзяржавы. Замест таго, каб запатрабаваць ад кіраўнікоў эўрапейскіх краін выкананьня сваіх міжнародных абавязкаў адносна беларускага народа, трапіўшага ў бяду (ці ня мы страцілі чвэрць насельніцтва ў другой сусьветнай вайне, калі іншыя падпісвалі капітуляцыі і аншлюсы?), сьвядомы беларус сарамліва распавядае пра камунізацыю, русіфікацыю і люмпенізацыю. **Ратунку - вось што павінны абавязкова пачуць Клінтан, Мэйджэр, Коль.**

Досыць мястачковасьці! Адзін Сахараў, абраўшы верныя метады, здолеў заваліць цэкаўска-гэбісцкую пачвару. Мандэла з турмы арганізаваў паразу апартэіда. На Беларусі ўсё пачынаецца спачатку. Дык што ў гэтым кепскага? Трэба адзінае - даводзіць свае інтарэсы сьвету, як гэта робяць усе народы Эўропы, і не баяцца шукаць іх цывілізаванага вырашэньня.

**Сяргей САМАСЕЙ**

## ЛІДА СУСТРЭЛА ДЗЕНЬ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ ПАД БЕЛ-ЧЫРВОНА-БЕЛЫМ СЬЦЯГАМ



26 ліпеня, напярэдадні Дня Незалежнасьці Рэспублікі Беларусь на Лідзкім гарвыканкаме быў падняты нацыянальны бел-чырвона-белы сьцяг. Сьцяг так арганічна ўпісаўся ў навакольнае асяроддзе, што быў заўважаны зацікаўленымі асобамі толькі праз сем гадзінаў. На штурм нацыянальнай сьвятыні быў кінуты ўзброены атрад міліцыянтаў, які пасьпяхова справіўся з задачай замены нацыянальнага сьцяга на лукашэнкаўска-мусульманскі.

**Ігнат ХІТРОВІЧ**



## ЧАС ПРЫЙШОЎ! МОЛАДЗЬ НАПЕРАД!

**Праблема выхаваньня моладзі заўсёды была адной з асноўных у любым грамадзтве, у любой дзяржаве. Менавіта ад моладзі залежыць, якой будзе дзяржава, ці ўвогуле яна будзе.**

Гісторыя дала нам цяжкія выпрабаваньні: фактычна вернута старая сімволіка, зьняважаецца беларуская мова, незалежнасьць.

Чаму? А менавіта таму, што беларускую моладзь не вучылі быць патрыётамі. Таму зараз, калі мы жадаем, каб беларуская ідэя перамагла праз пакаленьні і ўзмацнялася з кожным годам трэба зьвярнуць увагу на выхаваньне нацыянальна сьвядомай, патрыятычна настроенай незалежніцкай моладзі. Толькі так мы зможам захаваць сваю мову, сваю незалежнасьць, вярнуць свае сімвалы і пабудаваць нармальнае жыцьцё.

Зараз у рэспубліцы існуе шмат маладзёжных арганізацыяў, суполак. Гэта СМБ - былы камсамол; ЛКСМБ - новы камсамольскі рух, электарарат камуністаў, сокалы СС «Белая Русь» - прарасейскі настроеная арганізацыя. Моцнага нацыянальнага маладзежнага руху няма. Існуюць маленькія суполкі, пра якія ніхто ня ведае. А тым часам менавіта моладзь падтрымлівае незалежнасьць, мову, рынак, нашыя нацыянальныя сімвалы.

Таму час нам падказвае, што трэба аб'ядноўвацца вакол нацыянальнай ідэі і змагацца за яе.

На апошнім з'ездзе БНФ сабраліся прадстаўнікі моладзі з усіх рэгіёнаў Беларусі, каб вырашыць нарэшце, што рабіць. Прыйшлі да высновы, што трэба рыхтаваць базу, каб восеньню - зімой правесьці зьезд моладзі і стварыць Маладзежны Нацыянальны Рух.

У Горадні ствараецца аргкамітэт па стварэньні Маладзёжнага Руху, які будзе дзейнічаць пакуль як Маладзёжная фракцыя БНФ. **Першае паседжаньне плануецца правесьці 9 жніўня а 19 гадзіне ў памяшканьні КАФ «Бацькаўшчына» на вул. Савецкай, 10.**

Карыстаючыся выпадкам, запрашаю моладзь, якой не абыякавы лёс Бацькаўшчыны прыйсьці ў гэты дзень і аб'яднаць свае намаганьні для нашай справы. Час прыйшоў! Моладзь наперад!

**Сяржук ПАЎЛЕНКА,**
**сябра Беларускага Народнага Фронту.**

# СТАЛІН І ЛУКАШЭНКА

**(Вопыт параўнаньня паводле Плутарха)**

*Гісторыя паўтараецца два разы: адзін раз у выглядзе трагедыі, другі раз у выглядзе фарсу.*

*К.МАРКС*

**Часта можна пачуць ад нашых суайчыннікаў (пераважна старэйшага ўзросту): «О, каб зноў зьявіўся Сталін! Ён бы наладзіў парадак».**

**Так, Сталіна няма. А вось калі ўважліва прыглядзецца да нашага найгалоўнейшага кіраўніка? Ці няма пэўнага падабенства?**

Пачнем, як пачынаў стары Плутарх, са зьнешняга выгляду. Вам нічога не нагадваюць Лукашэнкавы вусы? Хто яшчэ, акрамя Леха Валенсы, з кіраўнікоў дзяржаў гэтак упрыгожвае сябе? І нават Валенса ў апошні час пагаліўся. А Лукашэнка з вялікай павагаю адносіцца да свайго твару. Невыпадкова ён падтрымаў прапанову надрукаваць яго партрэт і разьвесіць па ўсёй Беларусі. Ці не нагадвае вам гэта сталінскі час, а таксама больш позьні? І яшчэ адна рыса, агульная для Сталіна і Лукашэнкі. Шматгадовая прапаганда стварала з першага з іх «бацьку ўсіх народаў». А хіба ня бацькам усёй Беларусі лічыць і называе сябе Лукашэнка? (Тэрмін «правадыр», «фюрэр» ці «вялікі стырнавы» цяпер ня ў модзе). А яшчэ Сталін меў тытул «карыфей усіх навук». Вядома, што ў апошнія свае гады ён займаўся мовазнаўствам. І менавіта з пытаньняў мовазнаўства пачаў Лукашэнка сваю палітычную кар'еру.

Абодва яны не хварэлі на сьціпласьць і таму размаўлялі пра сябе ў трэцяй асобе, прычым абодва з жудасным акцэнтам.

І тут самы час успомніць іх адносіны да нацыянальных пытаньняў. Аднолькава лічылі яны вялікі рускі народ старэйшым братам. Толькі Лукашэнка дадае «сярод славянскіх народаў», бо палітычныя абставіны не дазваляюць далічваць да «малодшых братоў» прыбалтаў, ці, напрыклад, «асоб каўказскай нацыянальнасьці».

Асобныя рысы супадаюць амаль што да анекдотаў. Сьведчаць, што Сталін пасьля вайны запатрабаваў зьнішчыць кошт аўтамабіляў «Пабеда», каб яны былі даступны насельніцтву. І вось нядаўна «Радыёфакт» паведаміў, што Лукашэнка патрабаваў тое ж самае ад Гарадзенскага завода карданных валоў. «Ока», якую там зьбіраюць, таксама дарагавата каштуе. Вось гэта супадзеньне - праз 50 год! А нам яшчэ штосьці кажуць пра рынкавую эканоміку. Калі бацька дасьць загад: «Сабекошт, сьмірна!», то апошні расьці не павінен.

А як яны абодва лёгка «вырашалі пытаньні» са сваімі палітычнымі супраціўнікамі! Кажуць, што Сталіну належаць словы: "Ёсьць чалавек - ёсьць праблема, няма чалавека - няма праблема". Таксама і Лукашэнка: "Ёсьць галадаючыя дэпутаты - ёсьць праблема, няма ў залі паседжаньняў галадаючых дэпутатаў - няма праблемы". У сталінскі час пайшлі бы гэтыя дэпутаты па 58 артыкулу. Але іншы час - іншыя норавы, хаця агульная абыякавасьць да чужога погляду аб'ядноўвае.

Можна было б яшчэ закрануць шмат з таго, што яднае гэтых вялікіх дзяржаўных дзеячоў: таямніца паходжаньня, сямейныя справы, але што будуць рабіць тады будучыя Валкагонавы?

Кожны час мае сваіх герояў і сваіх нягоднікаў.

**Максім ГОРКІ**

# ЗМАГАРАМ ЗА НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ



**Урачыста прайшло сьвяткаваньне Дня Незалежнасьці Рэспублікі Беларусь у Лідзе. Дэмакратычныя арганізацыі Ліды: Беларускі Народны Фронт, Беларускае Згуртаваньне Вайскоўцаў, Саюз палякаў Беларусі і Таварыства польскай культуры імя Адама Міцкевіча наладзілі фэст ля магіл паўстанцаў 1863 года паміж вёскамі Малое Ольжава і Мохавічы.**

27 ліпеня тут былі ўстаноўлены два новыя крыжы: ефрасіньнеўскі шасьціканцовы і каталіцкі з надпісамі «Змагарам за незалежнасьць» і «Bojownikom niepodległości». Асьвяціў крыжы і адправіў імшу ксёндз Томаш з Ліды. На жаль праваслаўны сьвятар, які таксама быў запрошаны, ня змог удзельнічаць у сьвяце.

Пасьля імшы адбыўся сьвяточны канцэрт, наладжаны сіламі польскіх і беларускіх арганізацый. Чынны ўдзел у сьвяце прыняў беларускі бард з Горадні Віктар Шалкевіч, а таксама драбы БЗВ з Горадні, Ваўкавыска і Мастоў.

У выніку сьвята на Лідчыне сфармаваўся нацыянальнагістарычны мемарыяльны комплекс, далейшае аздабленьне якога сплянавана на бліжэйшыя гады.

**Станіслаў СУДНІК.**
**Фота М.БУРАЧЭЎСКАГА, Л.ШПАКОЎСКАГА.**

# ТАКСІСТЫ ПЕРАМАГЛІ?

**«Пагоня» ужо паведамляла ў двух папярэдніх нумарах пра незадаволенасьць гарадзенскіх таксістаў-прыватнікаў рашэньнем абласнога Савету, якім прадугледжваецца ўстанаўленьне для асоб, што займаюцца прыватным возьніцтвам у Горадні і раёне, фіксаванага падаходнага падатку ў памеры пяці мінімальных зарплат за месяц.**

Каля ста таксістаў раніцай 31 ліпеня ў чарговы раз прыйшлі да будынку аблвыканкаму. На гэты раз каля трыццаці чалавек сустрэліся з начальнікам абласной падатковай інсьпекцыі. Таксісты спачатку не пагаджаліся з прывязкай памеру падатку да мінімальнай зарплаты. Але папярэджаньне спадара Фірулёва, што ў адваротным выпадку ніякай размовы можа не адбыцца, вымусіла іх пайсьці на кампраміс.

Да сесіі абласнога Савету, якая адбудзецца ў верасьні і разгледзіць пытаньне, усе таксісты-прыватнікі будуць плаціць за месяц падатак у памеры дзьвюх мінімальных зарплат. На сесіі будзе дадзена магчымасьць выступіць прадстаўніку ад таксістаў з абгрунтаваньнямі іх прапаноў. І калі адзін з прыватнікаў засумняваўся, што ўсё можа застацца толькі размовай, М.Фірулёў паабяцаў выслаць на яго адрас тэкст адпаведнага ўказаньня, якое будзе дадзена раённым падатковым інсьпекцыям.

**Д.АЛЕГАЎ**

# ДАЛУЧАЙЦЕСЯ ДА СКАЎТАЎ!

**Скаўтынг (ад анг.scout, літаральна - разьведчык) - гэта форма дзіцячага і юнацкага руху, якая ўзьнікла ў пачатку 20 стагоддзя ў Англіі і распаўсюдзілася затым у Францыі, Германіі, Італіі, ЗША і другіх краінах, у тым ліку Расеі.**

Скаўцкі рух на Беларусі перажывае сваё адраджэньне. Аб'яднаньне беларускіх скаўтаў згуртоўвае моладзь розных нацыянальнасьцяў і веравызнаньняў, дбае ня толькі пра фізічнае, але і пра грамадзкае, інтэлектуальнае і, асабліва, духоўнае разьвіцьцё.

З 17 па 23 ліпеня на маляўнічым беразе возера Сьвір ля вёскі Горані адбыўся летні лагер Аб'яднаньня беларускіх скаўтаў, у якім удзельнічала каля 200 юнакоў і дзяўчат з розных куткоў Беларусі, госьці з Нямеччыны і прыхільнікі руху.

Праграма летніку была разнастайнай і цікавай. Прайшлі спартыўныя спаборніцтвы, шматлікія конкурсы і віктарыны. З задавальненьнем скаўты ўдзельнічалі ў арыентаваньні на мясцовасьці, усім спадабалася водная падарожжа, конкурс малюнкаў і літаратурны. Першынство па футболу і валейболу атрымалі скаўты з Маладэчна, лепшымі ў геаграфічнай віктарыне былі прадстаўнікі сталіцы. А як стараліся паказаць свае здольнасьці ў прыгатаваньні самай смачнай, самай арыгінальнай стравы маладыя кухары!

Скаўты наведалі касьцёл кармелітаў у Засьвіры, а ў вёсцы Шэметава мясцовы ксёндз Войцех Ліманскі на беларускай мове распавёў моладзі пра імшу ў каталіцкім касьцёле, вельмі прыгожа сьпявалі дзяўчаты беларускія рэлігійныя песьні, моцна загучаў гімн «Магутны Божа».

У скаўцкім летніку кожны мог выпрабаваць сябе па розных скаўцкіх спраўнасьцях. На разьвітаньне адбыўся канцэрт пры вогнішчы.

**Б.ПАКУЛЬНІЦКІ,**
**сябар Рады Аб'яднаньня беларускіх скаўтаў.**

# ШАНЦ АТРЫМАЦЬ ПАШПАРТ З «ПАГОНЯЙ»

**Хаця вынікам рэферэндуму стала зьмена дзяржаўнай сімволікі Беларусі, у кастрычніку-лістападзе на Гарадзеншчыне пачнецца выдача грамадзянам краіны пашпартоў устарэлага ўзору. Такімі, як высьвятлілася, лічацца пасьведчаньні асобы з выявай «Пагоні». На жаль, іх нельга будзе выкарыстаць для замежнай паездкі.**

Выдавацца пашпарты будуць у першую чаргу асобам, якія дасягнулі шаснаццацігадовага ўзросту, зьмянілі прозьвішча, вызваліліся з месцаў пазбаўленьня волі ці згубілі пашпарт. Па магчымасьці, «старыя» пашпарты змогуць атрымаць і жадаючыя. Прыём дакумантаў на іх афармленьне будзе ажыцьцяўляцца па месцы жыхарства, але выдаваць іх будуць у Горадні. Каб атрымаць пашпарт з «Пагоняй» давядзецца заплаціць каля 30 тысяч рублёў.

Усяго на вобласьць выдзелена каля 100 тысяч пашпартоў, але ж знаходзяцца яны пакуль у «Беларускім Доме друку», бо няма грошай, каб выкупіць іх.

Пашпартная служба вымушана пайсьці на выдачу гэтых пашпартоў, бо «саюзных» засталося толькі каля 300. А даведкі, якія выдаюцца замест іх, зьяўляюцца дакумантамі толькі на тэрыторыі Беларусі. Акрамя таго, штогод каля дзевяці тысяч чалавек губляе пашпарты.

Пашпарты з «Пагоняй» будуць выдавацца, пакуль не надрукуюць дастатковую колькасьць пашпартоў з новым гербам, узор якіх ужо распрацаваны. Мяркуецца, што працэс іх выдачы зацягнецца на два - тры гады, бо пашпартызаваць неабходна каля 700 тысяч чалавек. Новы дакумант можна будзе выкарыстаць для выезда за мяжу.

**А.ДУК**

# КАЛІ БАГАЦЬЦЕ ШУКАЕ ГАСПАДАРА

**По конкурсу прадаецца вайсковы гарадок плошчай 52 гектары з 75 будынкамі і збудаваньнямі ля вёскі Бердаўка Лідзкага раёну.**

У гэты ж час на частку Паўночнага гарадка ў Лідзе, якая застаецца без гаспадара пасьля расфармаваньня атрада супрацьпаветранай абароны, зусім няма ахвотніка.

Няма ахвотнікаў на вайсковы гарадок у г.п.Рось, а таксама ў г.Ваўкавыску. Во дажыліся! Мясцовыя ўлады ўжо і за так браць ня хочуць маёмасьць на мільярды рублёў, бо ня ведаюць як іх утрымоўваць. А пакуль яны думаюць, злодзеі ведаюць, што рабіць з дарэмным багацьцем. У Росі нядаўна за адну ноч зьнялі 11 дзьвярэй, ня лічачы астатняга.

**Вацлаў СЯРПІНСКІ**

## ПАСТВА ПАСТВЕ – РОЗЬНІЦА

Падчас візіту на Гарадзеншчыну Патрыярх Алексій II праехаў па Лідзскай кальцавой дарозе, але ў Ліду не завітаў.

Затое 17 жніўня сюды прыедзе лідар Беларускага Народнага Фронту Зянон Пазьняк. Што ж, у кожнага свая паства.

**Язэп АБУХОВІЧ**

## ЗГАРЭЎ НА ПРАЦЫ

Замыканьне электраправодкі стала прычынай узгараньня камбайна «Дон-1500» падчас уборкі збожжавых на полі калгаса «Маяк» Карэліцкага раёну. У выніку агонь цалкам зьнішчыў камбайн.

**В.Ц.**

## БІТВА ЗА ЎРАДЖАЙ

Нядаўна гаспадаркі вобласьці пачалі ўборку зерня новага ўраджаю, а ўжо зьявіліся жадаючыя атрымаць яго незаконным шляхам. Медык з Мастоў па папярэдняй змове з камбайнёрам саўгаса «Ваўкавыскі» з поля скралі 300 кілаграмаў ячменя, аднак былі затрыманы супрацоўнікамі міліцыі.

А камбайнёр калгаса «Сьвітанак» Зэльвенскага раёна сам скраў з камбайна, што стаяў на полі, 1425 кілаграмаў зерня жыта.

**А.Д.**

# «ЭЎРАТРЭЙД» ПРАПАНУЕ ЗАМЕЖНЫЯ АБНОСКІ

**Кожны сёньня імкнецца прышукаць пакупку патаньней. Таму адзеньне звычайна купляюць на рэчавым рынку, садавіну ды гародніну таксама - абы не ў магазіне, дзе яны і горш, і даражэй. Прычына зразумелая - ці не палова гарадзенскіх заводаў спынілася, а ў іншых месяцах плоцяць як атрымліваецца і, каб дамагчыся свайго заробку, усё часьцей рабочым даводзіцца выходзіць на вуліцу, ды спыняць рух транспарту.**

Вось у гэткіх умовах раптам знаходзіцца адна фірма, а менавіта - "Эўратрэйд", якая прапануе гарадзенцам ажно 20000 рэчаў (адзеньне і абутак) з Нямеччыны. "Прыходзьце да нас, запрашаюць пакупнікоў,- на працягу тыдня вас чакае кожны дзень новы асартымэнт". Прычым цэны проста сьмешныя - усяго ад 3 да 35 тысяч рублёў за адну рэч! Вось якія дабрадзеі, аказваецца, яшчэ знаходзяцца сёньня...

Невыпадкова, што ў першы дзень чаргу пачалі займаць з 4 гадзін раніцы, чакалі цэлых 5 гадзін, а потым ледзьве дзьверы ня выламалі, калі пакупнікоў нарэшце пачалі запускаць унутр Дома культуры глухіх на вул.Дзяржынскага, дзе быў арганізаваны гандаль. Тут толькі людзі ўсьвядомілі, што не зьвярнулі ўвагу на тое, што прапанаваны гандаль - камісійны, а таму большасьць рэчаў - абноскі, якія сорамна нават прымерваць. Прычым нярэдка цэны значна большыя за тыя 3-35 тысяч. Напрыклад, джынсы каштуюць 60 тысяч, а ёсьць рэчы і даражэйшыя.

Ажыятаж адразу спаў, а чэргі зьменшыліся. Аднак усё ж-такі варта сказаць колькі слоў пра тое, як адбываецца гэтак гучна разрэкламаваны гандаль. Чакаць сваёй чаргі даводзіцца ў сярэднім 2 гадзіны. Унутр запускаюць звычайна 30 чалавек. Кожнаму выдаюць цэтлік, на якім пазначаны час. Як гаварылі пакупнікі, ім выдзяляюць на пошукі 35-40 хвілін. Адна бабулька паказала мне далонь, на якой у яе была прыклеена такая паперка з пазначаным часам. Бабулька выкупіла сабе нагавіцы за 18 тысяч, прычым зусім не нямецкія, а - пакістанскія. Яна мне нават ярлычок паказала. Вось так і корпаюцца людзі, як жабракі ў мяхах з абноскамі, якія ў заходнеэўрапейскіх краінах звычайна прадаюць за капейкі і на вагу. Дарэчы, калі вы не пераведзіце адведзены вам час, з вас возьмуць за выбраныя вамі рэчы на 10% таньней.

Што ж, шмат для каго з незаможных людзей, асабліва пеньсіянераў, і гэта палёгка.

**С.МАКС**



 



## ЯШЧЭ ПРА ПАСЬЛЯВАЕННУЮ ПАРТЫЗАНКУ

Спыненьне ў 1952 г. партызанкі «Чорнага Ката» не азначала адмову Беларускай незалежніцкай партыі ад барацьбы з бальшавіцкімі акупантамі. Барацьба гэтая пачала набываць новыя формы. Партызаны легалізаваліся пад чужымі прозьвішчамі на Беларусі, або выязджалі ў Расею й Казахстан. Невялікую частку з іх выкрылі ворганы дзяржбясьпекі, але большасьць удала законсьпіравалася. Чэкісты палявалі на іх і ў 50-я і 60-я гады. Некаторых знаходзілі ў Польшчы, іншых у Сібіры, Карэліі... Паралельна ліквідоўваліся апошнія партызанскія групы, што ўкрываліся ў бункерах. Не абыходзілася й бяз здрады. На Віленшчыне дзесьці на пач. 50-х г.г. чэкістам здаўся партызан, які паказаў сістэму бункераў, дзе хаваліся апошнія змагары з бальшавізмам.

Ужо ў 60-х гадах на той жа Віленшчыне па даносу суседа быў арыштаваны непрыкметны дзед. Пры вобыску ў яго быў знойдзены склад зброі: «шмайсэры», вінтоўкі, гранаты... «Мала я вас страляў, - з горыччу сказаў чэкістам невядомы змагар з бальшавізмам. Сяргей Сокалаў-Воюш успамінаў пра падобнага дзеда, якога сустрэў на Стаўпеччыне. «У мяне ёсьць зброя, каб змагацца за тую Беларусь, што вы адраджаеце...», - сказаў былы партызан Воюшу. Многія ўдзельнікі партызанкі паўміралі сваёй сьмерцю, гэтак і ня высачаныя дзяржбясьпекай. Тое ж сталася і з падпольшчыкамі, якія працавалі ў савецкіх установах, міліцыі, войску. Многія з іх ня былі выкрытыя й забралі сваю тайну з сабаю ў магілу ...

Іншыя ж не спынялі барацьбы з бальшавізмам. Яны прынялі актыўны ўдзел у новым слуцкім паўстаньні вясною 1967 года, калі случчакі спалілі гарадзкі суд разам з суддзёй, якая мякка асудзіла сына камуністычнага функцыянера за забойства. Паўстаньне было падаўлена прыбыўшым з Менску Белпалком. Тры чалавекі было расстраляна, сотні былі асуджаныя.

Некаторыя партызаны й падпольшчыкі перабраліся ў Польшчу або на Захад. Там яны стараліся не афішаваць сваё мейсца жыхарства, мянялі прозьвішчы. Легендарны атаман Якуб Харэўскі, які са сваімі партызанамі ў 1949 г. паехаў у Бразілію, «засьвяціўся» ў студзені 1968 года, калі надрукаваў у газеце «Беларускі голас» успаміны «Аб беларускай партызанцы ў апошнюю вайну». Да гэтага многія лічылі яго загінуўшым. Ужо ў красавіку 1968 г. Харэўскі гіне ў аўтамабільнай катастрофе...

Шмат тайнаў яшчэ трэба раскрыць, каб даведацца ўсю праўду пра пасьляваенную партызаншчыну. І дапамагчы нам у гэтым могуць непасрэдныя ўдзельнікі тых падзей, лістоў і успамінаў якіх мы чакаем.

**Ян ВЕЖАН**

## ТРЭБА СПАДЗЯВАЦЦА НА ЎЛАСНЫЯ СІЛЫ

**У Гарадзенскім аблвыканкаме адбылася прэс-канферэнцыя, прысьвечаная пытаньням рэфармаваньня эканомікі на аснове навукаёмкіх рэсурсазьберагаючых тэхналогій. Пачынаючы сустрэчу з журналістамі, дырэктар Аддзела праблем рэсурсазьберажэньня Акадэміі навук Беларусі А.Сьвірыдзёнак выказаў шкадаваньне, што захапіўшыся палітыкай, сродкі масавай інфармацыі пытаньні эканомікі зусім не асьвятляюць.**

Між тым Беларусь да апошняга часу мела адзін з магутнейшых навукова-тэхнічных патэнцыялаў сярод рэспублік былога Саюзу і па шэрагу паказчыкаў пераўзыходзіла агульнасаюзныя. Стаўшы незалежнай і «адкрыўшы» межы, апынулася ў сьферы жорсткай сусьветнай барацьбы за рэсурсы і рынкі збыту. У спадчыну ад былога Саюзу Беларусі дасталася высокая ресурсаёмістасьць эканомікі і пераважная арыентаванасьць на «усходнія» рынкі збыту сваёй прадукцыі, таму да такой барацьбы яна аказалася непадрыхтаванай. І самым страшным, на думку А.Сьвірыдзёнка зьяўляецца тое, што па многіх паказчыках мы спыніліся. Таму беларускай, у тым ліку гарадзенскай, прамысловасьці ў многіх выпадках трэба пачынаць усё спачатку. І невыпадкова страчаны эканамічныя сувязі. Нашыя суседзі ўжо зьвязаны з іншымі партнёрамі.

Узьняцца беларуская эканоміка можа, дзякуючы навукаёмістасьці. Але навукова-тэхнічны патэнцыял рэспублікі можа быць згублены. Дастаткова сказаць, што са 107 тысяч навуковых работнікаў у Беларусі засталося каля 45 тысяч, і толькі каля 10 працэнтаў з іх працуюць эфектыўна. Пра тое, што інтэлектуальная дзейнасьць ідзе вельмі млява сьведчыць і той факт, што на кожную беларускую заяўку сёньня прыпадае каля дзесяці патэнцыйных прапановаў вядучых фірм сьвету. Гэта можа і нядрэнна, але, аднойчы прагнуўшыся, мы можам апынуцца у «чужой інтэлектуальнай прасторы» і, каб арганізаваць у сябе вытворчасьць, давядзецца плаціць вялізныя сродкі для набыцьця замежных ліцэнзій.

Тая ж Гарадзеншчына ў апошнія дзесяцігоддзі абзавялася многімі буйнымі прадпрыемствамі розных галін прамысловасьці. Але практычна ўся галіновая навука, абслугоўваючая большасьць прадпрыемстваў, засталася за межамі Беларусі, у першую чаргу ў Расеі. І калі зьняты мытні для перавозкі грузаў, то для інфармацыі яны засталіся, а кошт яе павялічыўся ў дзесяткі тысяч разоў.

Але, нягледзячы ні на што, Беларусь і Гарадзеншчына яшчэ валодаюць пэўным навукова-тэхнічным патэнцыялам. Таму выйсьце з сітуацыі адно - максімальна абапірацца на ўласныя сілы. А.Сьвірыдзёнак лічыць, што трэба ствараць вабласны інвестыцыйны (інавацыйны) навукова-тэхнічны цэнтр на базе асацыяцыі ў складзе фізіка-тэхнічнага факультэта Гарадзенскага дзяржуніверсітэта, Аддзела праблем рэсурсазьберажэньня АН Беларусі, цэнтра навукова-тэхнічнай інфармацыі і іншых арганізацый, уключаючы інвестыцыйныя фонды.

Для такога цэнтра патрэбны памяшканьні. Але ж горад іх ня мае. Гарадзенскі універсітэт горш за ўсе ВНУ краіны забясьпечаны плошчамі. Фізіка-тэхнічны факультэт знаходзіцца ў невялікім памяшканьні, пабудаваным як інтэрнат. А супрацоўнікі і абсталяваныя аддзелы праблем рэсурсазьберажэньня АН Беларусі разьмешчаны ў пяці пунктах горада. І аддзел спадзяецца, што памяшканьні, якія павінен вызваліць памежны атрад, будуць перададзены на карысьць установы навукі.

**А.ДУК**

## УКРАІНА

**КІЕЎ**

«Першы крок на шляху да грашовай рэформы», - так назваў забарону на рух на Украіне з 1 жніўня замежнай валюты выконваючы абавязкі віцэ-прэм`ера па пытаньнях эканамічнай рэформы В.Пінзенік. Па яго словах, згодна распараджэньню Кабінета міністраў Украіны, у сувязі з адменай абарачэньня замежнай валюты плануецца павялічыць колькасьць пунктаў яе абмену.

Прэзідэнт Украіны Л.Кучма выдаў указ, які дазваляе фізічным асобам адкрываць ананімныя валютныя рахункі ў камерцыйных банках.

* * *

«Знаходжаньне ва украінскай інфармацыйнай прасторы замежнай тэлекампаніі, да таго ж існуючай у іншым прававым полі, якая часта дае тэндэнцыёзную інфармацыю аб падзеях на Украіне, зьяўляецца нонсэнсам». Такую заяву, гаворачы пра Грамадзкае расейскае тэлебачаньне, зрабіў на сваёй прэс-канферэнцыі 29 ліпеня старшыня Дзяржаўнага камітэта па тэлебачаньні і радыёвяшчаньні Украіны З. Кулік. Па яго словах, на Украіне не зьбіраюцца прыпыняць трансьляцыю праграм ГРТ. Размова ідзе «аб пераводзе тэлекампаніі на іншы, менш распаўсюджаны канал і аб скарачэньні гадзін вяшчаньня».

А з 31 ліпеня Грамадзкае расейскае тэлебачаньне пачало працаваць на Украіне на іншым канале. Адпаведнае распараджэньне выдаў прэм'ер-міністр Украіны Я.Марчук. Згодна дакуманту, таксама скарачаецца колькасьць гадзін вяшчаньня. Такія меры выклікаHы запазычанасьцю ГРТ украінскім сувязістам за выкарыстаньне рэтрансьлятараў. Акрамя ГРТ на дадзеным яму канале ў кожным рэгіёне Украіны будуць працаваць мясцовыя тэлекампаніі.

## ПАМЯЦІ ЧАСЛАВА НАЙДЗЮКА

Сумная вестка з-за акіяна - у Амерыцы на 80-м гаду жыцьця памёр Часлаў Найдзюк, наш зямляк, жыцьцёвы шлях якога яскрава адлюстраваў трагічны лёс беларускай інтэлігенцыі міжваенных і ваенных часоў. Ён нарадзіўся 28 жніўня 1915 г. у в. Байдаты Ваўкавыскага раёну, у сям`і сялян Цыпрыяна і Ядвігі. Рана страціўшы маці, спазнаўшы гаротнае дзяцінства, разам са старэйшым братам Язэпам падаўся па навуку ў Вільню, дзе ў 1927 г. стаў вучнем беларускай гімназіі. Прайшоў усе 8 навучальных гадоў і адзіны з класа здолеў паступіць у Віленскі універсітэт, дзе да 1939 г. вывучаў юрыдычную справу.

З пачаткам 2-й сусьветнай вайны ён шукаў справядлівы шлях стварэньня і разьвіцьця беларускай дзяржаўнай і грамадзкай ідэі. Таму, у трагічныя гады акупацыі, быў разам з тымі, хто спрабаваў аднавіць зьнішчаныя таталітарнай уладай і шавіністамі хілыя парасткі беларускага адраджэньня, стварэньне сваёй «беларускай хаты» на роднай зямлі. Але ў сутыкненьні сталінскіх і гітлераўскіх ідэй гэта было немагчыма. Тым ня менш засталася ў гісторыі спроба Часлава Найдзюка стварыць беларускі міравы суд у 1943-44 гг. з адпаведным справаводзтвам і правакарыстаньнем.

З 1944 г. Найдзюк ва ўцёках і ў эміграцыі З 1949 г. у ЗША. Цяжкі лёс эмігранта згладзіла сямейнае жыцьцё. Разам з жонкай Юзяй, дзеячкай беларускага жаночага руху ў Злучаных Штатах, уладкавалі сваё жыцьцё, нарадзілі і выхавалі трох дзяцей. Падтрымлівалі сяброў на эміграцыі, шмат працавалі ў беларускай каталіцкай царкве.

Часлаў ніколі не забываў Беларусі і прымаў удзел у культурным жыцьці беларускай эміграцыі, уважліва сачыў за палітычным становішчам на Радзіме, вітаў абвяшчэньне яе Незалежнасьці. У некралогу, які быў напісаны сям'ёй у першыя красавіцкія дні, згадвалася пра жыцьцёвае крэда Часлава Найдзюка: «Кампраміс ва ўсім, зразуменьне, узаемная дапамога». Ці не запавет гэта нашага земляка ў сёньняшні цяжкі час разьвіцьця беларускага грамадзтва і дзяржавы?!

**А.МАЙСЯЁНАК,**
**Старшыня Гарадзенскай краязнаўчай асацыяцыі.**

## ДА ДНЯ БЕЛАРУСКАГА ПІСЬМЕНСТВА І ДРУКУ

**З верасьня на Беларусі будзе ў другі раз адзначацца Дзень беларускага пісьменства і друку. 1-10 верасьня на Гарадзеншчыне пройдуць прымеркаваныя да яго мерапрыемствы.**

У абласной бібліятэцы імя Я.Карскага адбудзецца літаратурна-музычная вечарына, прысьвечаная 165-годдзю бібліятэкі, агляд літаратуры «Сучасная беларуская кніга», сустрэча з журналістамі беларускамоўных перыядычных выданьняў і цыкл гутарак «Ля вытокаў кнігадруку».

Тэматычная фотавыстава «Традыцыі і сучаснасьць» будзе арганізавана ў кінатэатры «Кастрычнік». У школах Горадні адбудуцца тэматычныя ўрокі «Як да нас прыйшла кніга». У праграме сьвята - таксама канцэрт «Ліецца музыка слоў».

У раённых бібліятэках будуць арганізаваны тэматычныя агляды літаратуры «Крыніцы разумнага, добрага, вечнага», літаратурна-музычныя гасьцёўні «Роднага слова гаючая сіла» і «... словам, і песьняй». Сьвяточныя тэматычныя вечары пройдуць у раённых і сельскіх Дамах культуры.

**А.Д.**

## РАСЕЯ

**МАСКВА**

«Вердыкт Канстытуцыйнага Суда, які рабалепна адобрыў усе злачынствы расейскай ваеншчыны ў Чачні, пакідае краіну сам-насам з ельцынскай дыктатурай». Пра гэта гаворыцца ў заяве Дэмакратычнага саюзу Расеі.

На думку аўтараў заявы, «рашэньне Канстытуцыйнага суда, што вайна -гэта мір, а свабода - гэта рабства, нядзіўнае для краіны, якая вяртаецца на шлях таталітарызму».

* * *

«Трэба адрозьніваць прымяненьне ўзброеных сіл у рамках гуманітарнага права з эксцэсамі выкананьня», - заявіў на сваёй прэс-канферэнцыі старшыня Канстытуцыйнага суда Расеі У.Туманаў. Яна прысьвячалася вынікам праверкі канстытуцыйнасьці Указа Ураду Расеі ад 30 лістапада 1994 года і Указа прэзідэнта Б.Ельцына "Аб мерах па ўзнаўленьню канстытуцыйнага парадку ў Чачні". 31 ліпеня КС прызнаў абодва ўказы, за выключэньнем асобных яго пунктаў, канстытуцыйнымі.

Па словах У.Туманава, падчас разгляду справы па розных пытаньнях сярод членаў суда паўсталі разнагалосьці. Ён падкрэсьліў, што было «вельмі складана вынесьці чыста юрыдычнае рашэньне». Старшыня КС заявіў: «Можна сказаць, што ўказы неканстытуцыйныя па форме, але гэта ня значыць, што мы не павінны разглядаць іх зьмест».Як адзначыў У.Туманаў, "прэзідэнцкі бок лепей падрыхтаваўся да працэсу". Адказваючы на пытаньне журналістаў аб скасаваньні Камісіі правоў чалавека пры Прэзідэнце Расейскай Федэрацыі, ён заявіў, што нічога ня ведае. На яго думку, С.Кавалёву трэба самаму пайсьці з пасады старшыні гэтай камісіі, бо «ён меў разнагалосьсі з прэзідэнтам і дапускаў у яго адрас крытыку».

* * *

«Генеральная пракуратура далёкая ад аб'ектыўнасьці ў адносінах да прэсы», - гаворыцца ў заяве Фонду абароны галоснасьці. Заява датычыцца крымінальнага перасьледаваньня карэспандэнта НТБ А.Масюк, абвінавачваемай на арт. 189 (укрывальніцтва злачынстваў) і арт. 190 («неданясеньне аб злачынствах») Крымінальнага Кодэксу Расейскай Федэрацыі.

Справа ўзбуджана па факту інтэрв`ю з Шамілям Басаевым. Журналістка ўзяла яго ў адным з населеных пунктаў НАЖАЙ-Юртоўскага раёну Чачэнскай Рэспублікі 25 чэрвеня 1995 года. На наступны дзень інтэрв`ю выйшла ў эфір у праграме НТБ «Сегодня». На думку аўтараў заявы, абвінавачваньне ў адрас А.Масюк «надуманае».

**(Э.-Х.)**

## МАЯ МІЛІЦЫЯ МЯНЕ БАРОНІЦЬ...

**Сёлета замарудзіліся тэмпы росту злачыннасьці ў Гарадзенскай вобласьці. Калі ў мінулым годзе за шэсьць месяцаў у параўнаньні з 1993 годам колькасьць злачынстваў вырасла на 14,6 працэнта, то за бягучы - на 13,4%. На 16 працэнтаў, у тым ліку на 8 працэнтаў на лініі крымінальнага вышуку, павялічылася іх раскрывальнасьць. Але ж паранейшаму колькасьць злачынстваў расьце, за першае паўгоддзе іх зарэгістравана 5071.**

Рост дасягнуты, у асноўным, за кошт крадзяжоў дзяржаўнай маёмасьці. Толькі па аграпрамысловаму комплексу ворганамі ўнутраных спраў накіравана кіраўнікам гаспадарак 658 прадстаўленьняў аб ліквідацыі прычын і ўмоваў, якія садзейнічаюць учыненьню крадзяжоў і раскраданьняў. Па словах намесьніка начальніка УУС аблвыканкаму, начальніка міліцыі грамадзкай бясьпекі В.Аўрамчыка, калі б яны былі выкананы хаця б на палову, дык не адбылося б 340 крадзяжоў.

Колькасьць наўмысных забойстваў застаецца на ўзроўні мінулага года. Аналагічная сітуацыя са згвалтаваньнямі і замахамі на іх, цяжкімі цялеснымі пашкоджаньнямі. Аднак істотна - на 25 працэнтаў - узрасла колькасьць разбойных нападаў. Павялічылася колькасьць рабункаў (на 39,5%).

Стабілізавалася крыху крымінальная абстаноўка на вуліцах і іншых грамадзкіх месцах. У трынаццаці раёнах вобласьці вулічная злачыннасьць альбо засталася на ўзроўні мінулага года, альбо адбылося яе скарачэньне. В.Аўрамчык адзначыў, што на 7,6 працэнта зьменшылася падлеткавая злачыннасьць. Але аб'ектыўныя прычыны для яе росту захоўваюцца. Дастаткова сказаць, што каля 8 тысяч падлеткаў нічым не занятыя, а гэта такая катэгорыя людзей, якая можа лёгка стаць на шлях супрацьпраўных дзеяньняў.

Значна ўзрасла за першае паўгоддзе аварыйнасьць на дарогах Гарадзеншчыны. Колькасьць дарожна-транспартных здарэньняў павялічылася на 32.5 працэнты. У іх загінула 107 чалавек і 422 паранена. Значная частка аварыяў зьдзейсьнена вадзіцелямі ў нецьвярозым стане.

У міліцыі цяпер працуе каля трох тысяч чалавек, з іх больш за тысячу афіцэраў. І, хаця штаты цалкам не ўкамплектаваны, даводзіцца ачышчаць шэрагі. Па адмоўных матывах звольнена 54 чалавекі, з іх 4 за зьдзяйсьненьне злачынстваў. Яшчэ 224 супрацоўнікі за першае паўгоддзе атрымалі пакараньне.

**А.ДУК**

 

ЮРЫ ГУМЯНЮК

# ВЕРШЫ З КНІГІ «ТВАР ТУТАНХАМОНА»



### СЬВЕДКА

Люблю айчыну я, нібыта Лермантовіч,
зусім ня так, як віцэ-адмірал.
Пакінуў мне тастамант дзядзька Кагановіч,
міліцанэры сшылі крымінал.

Я выйшаў позна. З шынялём. Пад пахай - кайстра,
якой шпурнуў нябожчык Гагельман,
той самы тыпус, некрафільскіх оргій майстра,
што падпаліў варожы Кыргыстан.

Вы ўсё сьцьвярджаеце, што ў горадзе ня чыста?
Падлеткі здратавалі палігон?
Ды дзе ж там, калі згвалціў камуніста
сусьветны паравакатар Пушкінзон!

### ЗАКЛІК КАМСАМОЛКІ

Жыцьцё мінае ў бессэнсоўнай тузаніне,
адно серп з молатам ратуюць ад нягод.
А ты гаворыш пра далёкія краіны,
як нацкаваны антыпатрыёт.

Не ўспамінай пра шэры-брэндзі-ананасы,
асьветліць шлях нам Лямпка Ільіча.
Згніюць дашчэнту ўсе буржуі-підарасы,
спазнаўшы кшталт Дамоклава мяча.

А там і шчасьце райскае настане...
Ты што, ня чуеш? - Камунізм ідзе!
Таму давай хутчэй кахацца, Ваня,
адразу на чырвонае зьвяздзе.

### ГАРЭЛКІ ПОЎНЫ КАПЯЛЮШ

Мне падабаецца цяжарны супэрмэн,
які здымае ў час сустрэчы капялюш,
ажно рагоча да зьнямогі Дыяген
і налівае ў капялюш гарачы пунш.

А на ўзьбярэжжы лесьбіянкі правяць баль.
Ім мэвы песьні эксклюзыўныя пяюць
пра тое, што завод «Электрасталь»...
На жаль, праз радыё нам гэта не пачуць.

Бо бае байкі паспаліты графаман
пра дуб зялёны і ката на ланцужку.
Зьвярок трымае ў роце жоўты тулiпан
і паварочвае разумную башку

то ўзад, то ўперад, быццам спаміж ног
яму загналі аграмадны мэгафон.
Сацыялізм нас канчаткова перамог,
а найспрытнейшыя зьлінялі за кардон!

Аднак сьмяецца напаўп'яны Дыяген:
«Зьлятай на плошчу і пачварны помнік зруш,
а я табе, цяжарны дружа-супэрмэн,
налью гарэлкі поўны капялюш».

### СЬЛІМАКІ

Ты ня ведаеш: хто ты і дзе...
Нібы цуцык скуголіш пад плотам.
Сьлімакоў у сваёй барадзе
узгадуеш, напэўна, на потым.

Не чакаеш за люстрам вакна
сарамлівай і цёплай кабеты,
што заўсёды сумуе адна
і сядзіць за сталом без абеду...

Так марудна будуецца дом,
і праз шкло не відаць анічога...
Ты ствараеш уласны фантом,
ядмаўляеш і Д'ябла, і Бога,

бо ня ведаеш: хто ты і дзе
нарадзіўся... Цяпер жа пад плотам
прамаўляеш: «А хто там ідзе?»
А ў адказ: «Сьлімакі ў драных ботах».

### ДЗЕНЬ, ЯК ТЫДЗЕНЬ

Абсалютна новыя крэацыі:
а гадзіне ночы - фасцынацыя,
раніцай - другая мастурбацыя,
я на працы - дэкамунізацыя.

Сябра зноў раскажа пра палюцыі,
сакратарка пра вандроўку ў Турцыю,
шэф падпіша хутка рэзалюцыю,
каб спыніць нарэшце прастытуцыю.

За абедам пачынаем акцыю -
паўшчуваць парламанцкую фракцыю,
падтрымаць адно прыватызацыю
і забараніць русіфікацыю.

Увечары, каб зьнішчыць гіпакрызію,
паглядзіш у хаце тэлевізію,
вып'еш шклянку белае магнэзіі...
Вось яна, тыднёвая паэзія.

**1992 - 1993**
**г.Горадня**

ІГАР СІДАРУК

# КАЛІ Б Я ХАЦЕЎ ЗАМАЎЧАЦЬ...

*З ненапісанага верша*

**1.**

«Каму?» і «Навошта?» - адказ, а дакладней, не-адказ на гэтыя проста пастаўленыя пытаньні для некаторых сучасных творцаў ператварае ў бессэнсоўнасьць усё, што яны робяць. Сьвядомасьць правакуе дадаць яшчэ да «творцаў» слова «нацыянальных», але для гэтага, як мінімум, неабходная наяўнасьць самое нацыі. А без яе адчуваньне бессэнсоўнасьці сваіх вылузваньняў ды вылетрываньняў невысокае ўдвая. Тут не спрацуе й арэол «творцы-пакутніка». Адно, калі ты патрэбен грамадзтву, а цябе «забараняюць», зусім іншае, калі ты непатрэбен ужо нікому, нават «забароншчыкам».

Аднак хопіць ідэалізаваць: грамадзтва ніколі не ўсьведамляла ясную патрэбу ў мастаках. Гэта хутчэй сфэра падсьвядомага. А туды «нац. творцам» пакуль хады няма па той простай прычыне, што ўсё яшчэ палымнеюць чырвоныя сьцягі ды лунаюць танныя кілбасы.

**2.**

А ці трэба туды ісьці?

**3.**

Сёньня, як пяць, як і дзесяць год таму, добра аддрукаваная кніга каштуе прыблізна столькі ж, колькі кілё сярэдняе якасьці кілбасы.

«Кошт каштоўнасьцяў» нязьменны?...

**4.**

«Элітарная культура». Што за спадарыня такая? Якая ствараецца ды абслугоўваецца элітаю? Ці абслугоўвае эліту? Тады застаецца, не зважаючы ні на каго, стварыць сваю вежу са сланоавае косткі, зрэдку пускаючы туды асабліва прагнучых.

... Або засесьці за зэкаўскія раманы. Ці машкельскія показкі. За апошнее ганарары будуць больш элітарныя.

**5.**

А ці можа культура «абслугоўваць?» Можа, калі ня толькі раманы, але й грамадзтва зэкаўскае. Так што чыніце пёры ды рыхтуйце пэндзлі, «майстры бел. сав. культуры»!

**6.**

Хто з трох слугаў быў больш разумнейшы, больш, урэшце, гарманічны? Той, хто закапаў свой талент у зямлю й, магчыма, чакаў развіцьця, прарастаньня прыроднага, або тыя, што аддалі свае набыткі «пад рост» квотнікам? Урэшце, у Краіне Дурняў заўсёды растуць дрэвы з залатымі манэтамі. Вось толькі хто садзіць іх? Першыя ці другія?

**7.**

З размовы з пісьменьнікам, які ня быў прыняты ў СП ды, заліваючы гора, напіўся, як гавораць у нас на Палесьсі, «да ўсрачкі»:

«- М... м... мастацтва! Адрынута, маць тваю! Краіна! Дзесяць мільёнаў! А які наклад у к... ку... культурных ... культурніцкіх часопісаў? Дзьве тысячы - гэта ўжо ўга! А вы гаворыце ... пра нейкую там «духоўнасьць»! Славянскай душы, панімаеш!... Хутка й на гэтым - крыж, задніца! ... Бо каму гэта нада? А нікому гэта ня нада!

- А вам?

- А хто ў мяне пытаць будзе? ...»

**8.**

Правільна, ніхто. Упітаму пісьменьніку, які размазвае свае соплі на людзях, толькі й патрэбы, што ў «культурніцкім часопісе».

**9.**

Некаторыя сацыёлагі сьведчаць: быццам для таго, каб грамадзтва прагрэсавала ды рухалася далей, неабходна наяўнасьць хаця б 5 адсоткаў нацыянальна ды палітычна сьвядомага насельніцтва. (Іншыя, праўда, пярэчаць, што ніяк ня менш за 1/3). Калі кіравацца падлікамі ўсё ж першых, то для Беларусі хапіла б 500 тысячаў чалавек. Цікава, а калі сплюсаваць разам усіх мастакоў, кампазітараў, пісьменьнікаў, навукоўцаў, артыстаў, урэшце, настаўнікаў, урэшце, студэнтаў і г.д., то колькі набярэцца? Няўжо менеў? І што тады гавараць пра Народны Фронт, які пастаянна набірае свой мільён «жалезнага электарату»?

Грамадзтва ж, наадварот, рэгрэсуе ды пакуль рухаецца толькі назад. Значыць, гэтаму самаму мільёну нечага істотна не хапае. Магчыма, усьведамленьня, што нічога не даецца без сапраўднае крыві ды жорсткага бою. Але тады кроў? Прагрэс, яшчэ для Беларусі нязьведаны, ці канчальнае пахаваньне ўсяго?

Урэшце, рэшткі народнай маралі стрымаюць нават самае плюхкае «балота».

...А сярод пісьменьнікаў, мастакоў ды рэжысэраў заўсёды знойдуцца савіцкая, азаронкі ды ўсялякія іскрыкі, якія запатрабуюць павесіць у кожным пакоі партрэт Хама.

**10.**

Маральнасьць нацыі пры пэўных абставінах вядзе да яе вынішчэньня.

**11.**

Нічога не зьмянілася. Кожны мусіць працаваць, як і працаваў, ад кожнага чакаюць таго ж, чаго й чакалі. Сутнасьць узаемазлучаных начыньняў у тым, каб зьмесьціва заўсёды мела адзіны ўзровень паверхні. Хацець парушыць гэты закон - разьбіць, узарваць начыньне.



**12.**

Ня кожны творца згодны абраць сабе ролю дынаміту. Бо тут ужо могуць паляцець у розныя бакі драбкі костачак ды шматкі кішак. Што неяк неэстэтычна дый проста сьмярдзюча. Аднак той, хто абірае, нарэшце знаходзіць адказ на «Каму?» і «Навошта?» Праўда, і гэтых дынамітчыкаў часта бачаць толькі Набліжаныя.

**13.**

Там, дзе ёсьць творца, там ёсьць воля. А дзе ёсьць воля, там няма страху.

**14.**

Мастак, напішы люстэрка й ты ўбачыш, што куля адлітая ўжо й для цябе.

**г.Кобрынь**

